

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№14 (232) ВЕРАСЕНЬ 2017 ГОД

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## ЭФЕКТЫЎНАЕ ВЫКАРЫСТАННЕ НЕРУХОМАСЦІ

**На чарговай сесіі райсавета дэпутаты абмеркавалі магчымасці эфектыўнага выкарыстання закінутых будынкаў**

Перад пачаткам пасяджэння дэпутаты і чыноўнікі Шумілінскага райвыканкама на чале з кіраўніком раёна Аляксандрам Снаравым, начальнікі аддзелаў і кіраўнікі арганізацый і прадпрыемстваў раёна наведалі шэраг аб'ектаў, якія раней не выкарыстоўваліся, а зараз знайшлі новых гаспадароў.

Адным з асноўных пытанняў, вынесеных на парадак дня чарговай 42-ой сесіі раённага Савета дэпутатаў, якая праходзіла 22 верасня, было пытанне аб выкананні заканадаўства па кіраванні і распараджэнні нерухомай маёмасцю, якая знаходзіцца ва ўласнасці Шумілінскага раёна, уцягненні ў гаспадарчы абарот маёмасці, якая не выкарыстоўваецца ці выкарыстоўваецца неэфектыўна.

Да прыкладу, ТАА «Альянспластрэсурс» размешчаны ў будынку цэха былога механічнага завода. Будынак не выкарыстоўваўся і развальваўся, калі ў 2012 годзе яго выкупіў амаль за паўмільярда (недэнамінаваных) рублёў цяперашні ўласнік. Была праведзена рэканструкцыя, і ў канцы 2014 года новае прадпрыемства пачало выраб прадукцыі, было створана 44 працоўныя месцы.

Зараз тут працуе 52 чалавекі. У ходзе экскурсіі выканаўчы дырэктар Аляксандр Кабанчук і галоўны бухгалтар Алена Шылко падрабязна расказалі пра вытворчасць, умовы працы, сацыяльны пакет, які існуе для работнікаў, прадэманстравалі ўзоры прадукцыі. Дарэчы, пластыкавая тара розных форм і памераў, якую вырабляе «Альянспластрэсурс», пераважна ідзе на экспарт ў Расію. Прадпрыемства ўражвае ўзорнай чысцінёй і парадкам на тэрыторыі і ў цэху.

Наступным аб'ектам стала прадпрыемства ІП А. А. Лаўрыненка. Індывідуальны прадпрымальнік узяў у арэнду з наступным выкупам гаражы аднаго з аддзелаў райвыканкама, правёў іх рэканструкцыю і стварыў сучасную аўтамайстэрню з крамай аўтазапчастак.

У ходзе абмеркавання пытання выступіла намеснік дырэктара ПГВУП «Легна» Ірына Дзіковіч. Прадпрыемства арандуе ва УП «Шумілінскі райаграсэрвіс» будынак былой фермы, дзе арганізавала дрэваапрацоўчую вытворчасць. У планах — выкуп будынка ва ўласнасць, пашырэнне і паглыбленне вытворчасці, павелічэнне колькасці працоўных месцаў.

Прыкладам эфектыўнага вядзення сельскай гаспадаркі стала выступленне кіраўніка сялянскай (фермерскай) гаспадаркі «Раднік» Юрыя Сямёнава. Гаспадарка робіць стаўку на эканамічна выгадныя культуры, стварае моцную кармавую базу, выкарыстоўвае высокабялковыя культуры, як вынік — надой больш за 5000 кг на карову, нядрэнныя і фінансавыя паказчыкі.

Апошнім аб'ектам стаў фізкультурна-аздараўленчы цэнтр. Пабудаваны і ўведзены ў 1988 годзе ў строй, ФОК працаваў да 1991 года, пасля чаго стаяў закінуты да 2012 года. На рэканструкцыю і мадэрнізацыю аб'екта з бюджэту выдаткавана каля 14 мільярдаў (недэнамінаваных) рублёў, фізкультурна-аздараўленчы цэнтр уведзены ў 2016 годзе, прадстаўляе аздараўленчыя паслугі жыхарам раёна, забяспечвае работай 34 чалавекі.

Наогул, за 2012-2017 гады уцягнуты ў абарот 111 аб'ектаў нерухомасці. Разам з тым, ёсць прыклады, калі прыходзілася вяртаць назад перададзеную маёмасць з-за таго, што яна неэфектыўна выкарыстоўвалася новымі гаспадарамі.

**Алесь Шумскі**

***ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY***

АХОВА ЗДАРОЎ'Я

## ВАКЦЫНАЦЫЯ

**1 кастрычніка ў Віцебскай вобласці распачалася масавая вакцынацыя насельніцтва супраць грыпу.**

Прышчэпачная кампанія павінна завяршыцца да 1 снежня і ахапіць каля 40% насельніцтва рэгіёну. Як паведаміў галоўны ўрач абласнога цэнтра гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя Уладзімір Сінкевіч, усяго плануецца вакцынаваць супраць грыпу звыш 480 тыс. жыхароў Віцебшчыны, з іх больш за палову (каля 260 тыс.) – за кошт мясцовага бюджэту, амаль 155 тыс. чалавек – рэспубліканскага і каля 95 тыс. – за сродкі прадпрыемстваў і арганізацый.

Перш за ўсё ў поле зроку трапляюць людзі з групы высокай рызыкі заражэння на грып, а гэта дзеці ад 3 да 6 гадоў, асобы з устаноў з кругласутачным рэжымам знаходжання, работнікі аховы здароўя, гандлю, грамадскага харчавання, транспарту і г.д. Таксама, каб пазбегнуць ускладненняў захворвання, прышчэпка абавязковая для дзяцей ад паўгода да 3 гадоў, дзяцей старэйшых за 3 гады, якія маюць хранічныя захворванні, пажылых людзей, старэйшых за 65 гадоў, цяжарных.

Спецыфічную імунапрафілактыкі грыпу будуць ажыццяўляць 197 устаноў аховы здароўя рэгіёну, таксама створаны 219 выязных брыгад для працы ў сельскай мясцовасці. У цяперашні час усе медустановы забяспечаны неабходнай колькасцю прэпаратаў. У цяперашні час выкарыстоўваецца «Грыпол плюс» расійскай вытворчасці, якая станоўча зарэкамендавала сябе ў папярэднім годзе, добра пераносіцца дзецьмі і дарослымі, а таксама не саступае па якасці еўрапейскім прэпаратаў (Францыя, Нідэрланды), якія прапануюцца на платнай аснове.

Кампанія па вакцынацыі супраць грыпу разлічана так, каб арганізм чалавека быў гатовы трымаць удар вірусаў падчас ўздыму захворвання, а гэта, як правіла, на зімовыя месяцы. Хоць, як сцвярджаюць спецыялісты, ужо праз адзін-два тыдні пасля прышчэпкі фармуецца высокаадмысловы імунітэт, які захоўваецца да 6-12 месяцаў.

Дарэчы, статыстыка паказвае, што людзі, якія зрабілі прышчэпку ад грыпу, радзей хварэюць прастуднымі захворваннямі дзякуючы сфармаванаму імунітэту.

Аналіз папярэдняга эпідэмічнага сезона ВРІ і грыпу паказвае высокую эфектыўнасць папярэдняй прышчэпачнай кампаніі. Акрамя папярэджаных выпадкаў грыпу і яго ўскладненых формаў, удалося прадухіліць больш за 22 тыс. выпадкаў вострых рэспіраторных інфекцый негрыпозныя этыялогіі.

**vitvesti**

**Пераклад з расейскай рэдактара**

З КАМІТЭТА ДЗЯРЖКАНТРОЛЮ

## СЦІПЛЫ АСАРТЫМЕНТ

**Камітэт дзяржаўнага кантролю ў ходзе праверкі выявіў у Шумілёнскім раёне розныя парушэнні заканадаўства ў 8 гандлёвых аб'ектаў, Апроч таго, быў не забяспечаны продаж айчынных тавараў, а кіраўнікамі гандлёвых арганізацый дапушчаны школьны асартымент ў мінімальнай колькасці.**

Мясцовыя ўлады таксама не прынялі меры па належнаму продажу тавараў для школьнікаў айчынных вытворцаў напярэдадні новага навучальнага года.

Як высветлілася, жыхары Шумілінскага раёна не мелі магчымасці набыць неабходныя тавары для дзяцей у блізляжачых гандлёвых аб'ектах. У адзіным буйным магазіне "Усё для дома" райспажыўтаварыства, размешчаным ў райцэнтры (гандлёвая плошча амаль 360 кв м), не было ў продажы сшыткаў для нот, папак для курсавых і дыпломных работ, папак школьных, паперы для запісаў, запісных кніжак, хуткасшывальнікаў, палачак лічыльных, пеналаў, трохвугольнікаў, падставак для кніг. Адсутнічаў у продажы шэраг памераў касцюмаў, штаноў, сукенак, камплектаў, сарафанаў, спадніц.

У магазінах вышэйказанага таварыства, размешчаных у аграгарадках Светласельскі і Мікіціха, школьна-пісьмовыя і канцылярскія прылады былі прадстаўлены ў асноўным у выглядзе ручак, алоўкаў, сшыткаў, альбомаў для малявання і каляровага кардону. А гандаль адзеннем і абуткам у сельскіх магазінах наогул не ажыццяўляўся.

Усім суб'ектам, дзе былі праведзены маніторынгі, вынесены рэкамендацыі па ўхіленні парушэнняў. Інфармацыя для прыняцця мер рэагавання і ажыццяўлення папераджальнага кантролю накіравана ў Шумілінскі райвыканкам.

**Ян Вайтовіч**

ФУТБОЛ

## ВЫЙШЛІ Ў ФІНАЛ

**ФК «Шуміліна» перамог талачынцаў і выйшаў у фінал. 17 верасня ў нядзелю на гарадскім стадыёне ФК «Шуміліна» правёў матч с футбольнай камандай «Ніва» (Талачын). У вырашальнай гульні шумілінцы абыгралі гасцей, што дазволіла ім працягваць барацьбу ў фінальнай частцы абласнога першынства па футболе.**

Дарэчы, ФК «Шуміліна» у гэтай сустрэчы задавальняла і нічыя, аднак гасцям была патрэбна толькі перамога. «Ніва» на гасцявую гульню грунтоўна падрыхтавалася — прывезла аптымальны састаў: шэсць запасных футбалістаў. У сваю чаргу ФК «Шуміліна» на гарадскі стадыён прыйшла падтрымаць вялікая колькасць заўзятараў.

З самага пачатку гульнёй завалодалі шумілінцы. І дзякуючы галам Віталя Пагрбняка і Аляксея Місурагіна шумілінскія футбалісты пайшлі на перапынак з камфортнай перавагай у два мячы.

З першых хвілін другога тайма талачынскія футбалісты пайшлі ў атаку, спадзяючыся выратаваць матч. Але і тут шансы былі мінімальныя — яны забілі ў адказ усяго адзін гол.

Вынік сустрэчы 2:1 — на карысць ФК "Шуміліна«.У фінальнай частцы ФК «Шуміліна» правядзе яшчэ восем матчаў супраць полацкіх, лепельскіх, глыбоцкіх і пастаўскіх футбалістаў.

Зараз у турнірнай табліцы ФК «Шуміліна» займае сёмае месца.

**Алесь Прыбярэжны**

КУЛЬТУРА

# ІМПРЭЗА

**21 верасня ў абласной бібліятэцы ў Віцебску адбылася прэзентацыя новай кнігі Віктар а Улюценкі, урача раённай бальніцы (псеўданім Антон Параскевін) "Валуны родной сторонкі".**

Імпрэзу уступным словаам адкрыла старшыня абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Тамара Краснова-Гусачэнка. Яна пазнаёміла прысутных з творчым шляхам Антона Параскевіна і падкрэсліла, што "Валуны роднай сторонкі" – гжта ўжо сёмая кніга аўтара. А яго першая кніга "Светлозор" пабачыла свет у 2008 годзе.

Віктар Васільевіч Улюценка яшчэз'яўляецца членам Саюза журналістаў Беларусі з 2006 года, а з 2010 года – членам Саюза пісьменнікаў Беларусі. Творчасць шумілінскага аўтара ў 2015 годзе была адзначана літаратурнай прэміяй імя Пятруся Броўкі.

Саюз пісьменнікаў Беларусі вырашыў узнагародзіць Віктара Улюценку медалём «За вялікія заслугі ў літаратуры».

Варта заўважыць, што "Валуны роднай сторонкі" – кніга ўнікальная. Тут сабрана і па-мастацку апрацавана інфармацыя пра камяні, якія ёсць у Шумілінскім раёне. Усе нататкі суправаджаюцца фотаздымкамі, вершамі і мясцовымі легендамі. Дарэчы, у кнізе сабрана каля 80 легенд пра валуны".

Віцебскі краязнаўца Міхаіл Ляшчынскі прызнаўся, што ўражаны кнігай Антона Параскевіна. Так убачыць невядомае ў камянях можа толькі сапраўды творчы чалавек. І не толькі ўбачыць, а і напісаць так, што перад чытачом узнікаюць цудоўныя краявіды.

"Любы камень, у якога дыяметр больш за 10 сантыметраў, можна назваць валуном", – пачаў сваё выступленне Антон Параскевін. Аўтар кнігі "Валуны роднай сторонкі" адзначыў, што сёння камень незаслужана забыты. "Без каменя не было б сённяшняй цывілізацыі. Надзвычай важную ролю ў станаўленні чалавецтва займаў каменны век, – дзяліўся Віктар Улюценка. – Каменныя сякеры. Жорны з каменю. Валуны – сведкі гісторыі. Недарэмна пра іх у народзе столькі легенд і паданняў". Менавіта камяні былі асноўным будаўнічым матэрыялам у мінулым. Так, напрыклад, з каменю на тэрыторыі Шумілінскага раёна былі пабудаваны замак Хлюдзінскага і Свята-Сергіеўскі храм (абодва ў Лескавічах).

**А. Прылуцкі**

ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

# ЗАБЛУКАЛІ Ў ЛЕСЕ

**Толькі за адзін дзень на Віцебшчыне згубіліся 16 грыбнікоў, у тым ліку адзін з іх заблукаў у Шумілінскім раёне**

Ратавальнікі за суткі дзевяць разоў выязджалі на пошукі грыбнікоў, усяго заблудзілі шаснаццаць чалавек.

Грыбнікоў шукалі ў лясах васьмі раёнаў. Ратавальнікі выязджалі на пошукі ў Бешанковіцкім, Віцебскім, Глыбоцкім, Гарадоцкім, Дубровенскім, Аршанскім, Шумілінскім і Талачынскім раёнах. Жыхару Віцебска, што заблукаў каля вёскі Белянкава Шумілінскага раёна, прыйшлося правесці ноч у лесе, а раніцай ён выйшаў самастойна. Астатніх грыбнікоў знайшлі яшчэ да змяркання, яны выходзілі на гук сірэны пажарнай машыны.

«Многія грыбнікі, зразумеўшы, што заблукалі, прымаюць правільнае рашэнне адразу звярнуцца па дапамогу ў экстранную службу. Вывесці іх з лесу ў такіх выпадках атрымліваецца звычайна да цемры», — адзначыла Марына Фандо, афіцыйны прадстаўнік Віцебскага абласнога ўпраўлення МНС.

Аматарам ціхага палявання яна нагадала пра неабходнасць мець з сабой зараджаны мабільны тэлефон і яркія элементы адзення.

**Ян Вайтовіч**

# БУХГАЛТАРЫ-МАХЛЯРЫ

**Два былыя галоўныя бухгалтары з Шуміліна падманулі падатковыя інспекцыі больш чым на 520 тысяч рублёў.**

Двух галоўных бухгалтараў з двух прадпрыемстваў Шуміліншчыны абвінавачваюць у здзяйсненні падатковых злачынстваў. Пра гэта паведаміла афіцыйны прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па вобласці Святлана Сахарава.

54-гадовы галоўны бухгалтар аднаго шумілінскага прадпрыемства, які выпускае падакцызную прадукцыю, са студзеня 2014 года па сакавік 2016-га ўнёс у падатковыя дэкларацыі па акцызах ілжывыя звесткі аб аб'ёмах рэалізаваных тавараў. Гэтыя дакументы затым ён падаў у падатковую інспекцыю. У выніку нанесеная шкода дзяржаве склала больш як 313 тысяч рублёў.

Мужчыну абвінавачваюць па ч. 2 арт. 243 КК (Ухіленне ад выплаты сум падаткаў шляхам ўнясення ў падатковыя дэкларацыі (разлікі) загадзя ілжывых звестак, што пацягнула прычыненне шкоды ў асабліва буйным памеры).

Такое ж абвінавачанне прад'явілі галоўнаму бухгалтару сумеснага таварыства з абмежаванай адказнасцю ў Шуміліне. 41-гадовая жанчына таксама ўнесла загадзя ілжывыя звесткі ў падатковыя дэкларацыі. Шкода дзяржаве - больш за 207 тысяч рублёў.

Матэрыялы крымінальных спраў перададзеныя ў суд.

**Алесь Прыбярэжны**

# БЕСПРАЦОЎНЫ АБАКРАЎ СУСЕДА

**Работнік аднаго з прадпрыемстваў ноччу распіваў спіртныя напоі ў сваёй кватэры. А днём выявіў, што прапалі грошы.**

Напрыканцы жніўня ў Шумілінскі РАУС звярнуўся 30-гадовы мужчына. Пацярпелы распавёў, што ў ноч на 10 жніўня пасля распівання спіртных напояў у яго кватэры быў здзейснены крадзёж грошай у суме 5 тысяч расейскіх рублёў.

Супрацоўнікамі міліцыі папярэдне ўстаноўлена, што злачынства ўчыніў сусед — непрацуючы 31-гадовы мясцовы жыхар. Супраць яго ўзбуджаная крымінальная справа па частцы.1 артыкула 205 КК.

**Сяржук Крупскі**
**па матэрыялах uvd.vitebsk.gov**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

# ПЕРШЫ ВОСЕНЬСКІ КІРМАШ

**У суботу 23 верасня ў Шуміліне на цэнтральнай плошчы па вуліцы Кароткіна прайшоў традыцыйны раённы восеньскі кірмаш, на якім прадпрыемствы, арганізацыі і ўстановы прадставілі сваю прадукцыю.**

Як вядома, восеньскія кірмашы — гэта даўняя, добрая традыцыя беларусаў. Абеларускі кірмаш заўсёды лічыўся самым гасцінным, славіўся сваёй шырыней і багаццем.

І на гэты раз мясцовыя сельгасвытворцы пастараліся задаволіць чаканні пакупнікоў.

Як водзіцца здаўна на раённым сельгаскірмашы, галоўным попытам тут карыстаецца прадукцыя сельскай гаспадаркі — збожжа, бульба, камбікорм, садавіна і гародніна, мяса. На кожным сельгасподвор'і гаспадары прапаноўвалі найбольш ходавы тавар. Ужо з 8 гадзін раніцы яны пад ясным вераснёўскім сонейкам пачалі абсталёўваць свае гандлёвыя месцы.

Найбольш шумныя чэргі сабраліся вакол машын з зернем, бульбай і капустай. Сваю прадукцыю ў райцэнтр прывезлі сялянска-фермерская гаспадарка «Крыніца», КУГСП «Сіроцінскі» , «Райаграсервіс», «Аргабаравінка», «Прыазёрны мір», а таксама былі прадстаўлены і падвор'і ад сельсаветаў: Дабейскага, Лаўжанскага, Сіроцінскага, Мішневіцкага, Светласельскага, Каўлякоўскага.

Хутка расходзілася зерне, да прыкладу — усяго за адну гадзіну машыны з калгаса «Аграбаравінка» і саўгаса "Сіроцінскі" апусцелі напалову. Мех ячменю каштаваў 10 рублёў, авёс быў па 8 руб., за мех пшаніцы прасілі да 16 руб. Шумілінцы, асабліва пенсіянеры, ахвотна куплялі зерне для курэй, якіх трымаюць на асабістым падворку. Адзін мужчына ўзяў адразу некалькі мяхоў у кузаў міні-трактара. Таксама бойка разбіралі і бульбу з машыны гаспадаркі «Крыніца» па 35 капеек за кілаграм, за 14 рублёў мех. Мяса ялавічыны калгасы прадавалі ад 4 да 6,5 рублёў за кілаграм, капусту па 30 капеек.

Жыллёва-камунальная гаспадарка прывезла на продаж муку (мех ячменкі або іншай зернесумясі каштаваў 11 руб) шчыты для плота (21-23 руб.) і дровы. Адзін трактарны прычэп калодак з асіны і вольхі каштаваў 230 рублёў, а прычэп спіленых дрэваў — 177 руб. (памерам 6,8 куб. 4 м).

Шумілінскі лясгас у сваю чаргу прапаноўваў дэкаратыўны пасадачны матэрыял. Тут можна было набыць саджанцы ядлоўцу блакітнага, піхты каўказскай, кіпарысавіка, ядлоўцу лускаватага і іншыя. Прадаваўся і мёд — літровы слоік па 17 руб.

Саўгас «Рудакова» з Віцебскага раёна прадаваў з машыны гародніну. Цэны былі цалкам прымальныя: агуркі свежыя па 1 руб., памідоры — 1,54 руб., капуста белакачанная — 35 капеек за кг, морква — 70 капеек, буракі сталовыя — 48 капеек.

Дварыкі школ, дзіцячых садкоў і культурных устаноў раёна вабілі нацыянальным беларускім каларытам і характэрным кірмашовым убраннем.

Былі тут кампазіцыі на сялянскую тэму з конікамі і птушкамі, печамі з блінамі, казачнымі лялькамі, самаварамі. І ўсё гэта кірмашовае багацце было шчодра аздоблена яркімі восеньскімі кветкамі, кляновым лісцем, вышыванкамі, снапамі, рабінавымі гронкамі, размалёванымі стэндамі, рознымі вырабамі і сувенірамі з дрэва, лазы і саломкі.

Яслі-сад № 1, № 4, Амбрасавіцкая СШ, Слабадская СШ, Навікоўская СШ і Шумілінская раённая гімназія прапаноўвалі гародніну, якую вырасцілі ўласнымі рукамі настаўнікі, вучні і іх бацькі.

Бойкая чарга выстраілася каля палаткі прыватнага прадпрымальніка з Мікіціхі Васіля Мацуганава. Шумілінцы ахвотна куплялі розныя прысмакі з мяса і рыбы, кулінарную прадукцыю з кафэ. Да таго ж была магчымасць пачаставацца пловам і шашлыкамі, смачны пах ад якіх ішоў па гандлёвых чэргах і наганяў апетыт.

Удзел у шумілінскім кірмашы прынялі фермерскія гаспадаркі, прыватныя прадпрыемствы і гандляры суседніх раёнаў.

Попытам карысталіся яйкі з гаспадаркі «Багатырскі дар» Полацкага раёна.

А гандаль саджанцамі пладовых дрэў і кустоў вялі адразу чатыры плодагадавальнікі: «Лужаснянская выпрабавальная станцыя», «КХФ Фруктовый сад» Дубровенскага раёна, прыватнік Забела з в. Заазер'е Полацага раёна, які прывёз саджанцы вінаграду, і прыватнік Карыцкі з Лепельскага раёна . Амаль уся гэта прадукцыя была мясцовых беларускіх сартоў.

Саджанцы яблыні аднагодкі з Лужасна прадаваліся па 6 рублёў, двухгодкі — па 7, груша —10, чарэшня —15, вішня —15, сліва — 10. Алыча па 10 руб., чырвоныя парэчкі — 3, чорныя — 4, агрэст — 5, маліны — 3, ажына — 2, расада суніцы садовай — 6 руб. за адзін дзесятак.

Прыватнік з Бешанковіцкага раёна прывёз асеннюю і зімнюю вопратку, абутак. Чарга сабралася і каля палаткі, дзе попытам шумілінцаў карысталася пасцельная бялізна, коўдры, ручнікі, падушкі, іншыя хатнія рэчы.

Шумілінскае райспажыўтаварыства таксама прадставіла разнастайны асартымент тавараў, а каля палявой кухні людзі частаваліся духмянай палівай.

Як бы там ні было, калі мець на ўвазе значнае падаражэнне многіх тавараў — на першым восеньскім кірмашы было чаго неабходнага спажываць і назапасіць. Усе, хто хацеў зрабіць на зіму запасы, патрэбны тавар для сябе знайшоў. Многія шумілінцы мелі добры настрой, прыемныя сустрэчы, смачныя пачастункі, а гандляры атрымалі выручку. А восеньскія кірмашы будуць працягвацца.

**Алесь Шумскі**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебясплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

***• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

«ЗАХАД-2017»

# ЛУКАШЭНКА ПАКРЫЎДЗІЎСЯ?

**Вайсковыя вучэнні «Захад-2017» скончыліся. Расійская тэхніка пакідае межы Беларусі. Што пісалі пра вынікі вучэнняў у Расіі? «Наша Ніва» зрабіла падборку меркаванняў.**

**Росбалт: Лукашэнку ўказалі яго месца?**

«Расійска-беларускія вучэнні «Захад-2017» скончыліся зруйнавальнай паразай — як ўмоўнага праціўніка, так і добрых адносін Мінска з усімі суседзямі», — адзначае выданне Росбалт.

Аўтар матэрыяла Дзяніс Лаўнікевіч адзначае, што Расіі цяпер ужо зусім неабавязкова праводзіць гібрыдную акупацыю Беларусі, бо «несамастойнасць афіцыйнага Мінска і яго бездапаможнасць у вайскова-палітычным плане была прадэманстравана ўсяму свету, а адносіны з суседзямі — начыста сапсаваныя».

«Цяпер можна смела выказаць здагадку, што пасля завяршэння вучэнняў адносіны паміж Мінскам і Масквой нейкі час будуць дастаткова прахалоднымі. Расія занадта ярка прадэманстравала несамастойнасць Беларусі ў вайскова-палітычных пытаннях і яе нікчэмную значнасць у рэгіёне ў выпадку сілавога супрацьстаяння.

Зразумела, што беларускае кіраўніцтва пакрыўдзілася: выходзіць, што падчас вучэнняў Крэмль папросту выкарыстаў саюзніка як сатэліта, каб падкрэсліць уласную вайсковую сілу. Пасля гэтага, атрымліваецца, еўрапейцам проста няма пра што весці перамовы з афіцыйным Мінскам — цяпер усё выглядае так, што ад Лукашэнкі ў рэгіёне ў пытаннях бяспекі рэальна нічога не залежыць», — адзначае Росбалт.

**«Баявыя сябры» рассварыліся?**

Вайсковы аглядальнік Аляксандр Гольц піша: «Выснова, якая вынікае з вучэнняў «Захад-2017», заключаецца ў тым, што ніякай аб'яднанай расейска-беларускай рэгіянальнай групоўкі войскаў не існуе ў прыродзе. Бакі нават не лічаць патрэбным аператыўна дамаўляцца пра сцэнар баявых дзеянняў, які яны адпрацоўваюць».

«На працягу многіх гадоў Лукашэнка спрытна гуляў на комплексах расійскага кіраўніцтва, ніяк не жадаючага змірыцца з адсутнасцю рэальных вайсковых саюзнікаў. Ён умудрыўся атрымліваць шматмільярдныя эканамічныя бонусы ў абмен на славесныя запэўніванні у гатоўнасць ваяваць плячом да пляча з расейцамі. Але вось пасля анексіі Крыма і сакрэтнай вайны на Данбасе натаўскія батальёны разгарнуліся ў краінах Балтыі і Польшчы. Вайсковае супрацьстаянне Расіі і Паўночнаатлантычнага альянсу стала рэальнасцю. І беларускі лідар імгненна зразумеў: у гэтым выпадку вайсковыя аб'екты на тэрыторыі яго краіны ператвараюцца ў мэты першага ўдару. І неадкладна адмовіўся ад сваіх абяцанняў. Ён да бясконцасці удакладняе палажэнне аб Адзінай сістэме СПА, адхіляе любую магчымасць размяшчэння расійскай авіябазы ў Беларусі. Так што нельга выключаць, што «Захад-2017» стане пачаткам размежавання дзвюх краін у вайсковай сферы», — прагназуе Аляксандр Гольц.

**Лукашэнка пакрыўдзіўся?**

«Адносіны Расеі і Беларусі зноў коцяцца пад гару — перш за ўсё праз загад Пуціна, які запатрабаваў, каб беларускія вытворцы нафтапрадуктаў гандлявалі імі праз расейскія, а не прыбалтыйскія парты. Бацька, як кажуць, не на жарт пакрыўдзіўся. А убачыўшы, што тэма вучэнняў выклікае неадназначную рэакцыю на Захадзе, з якім Мінск цяпер яўна не мае намеру сварыцца, вырашыў лішні раз не "свяціцца" у кампаніі расейскага прэзідэнта», — робіць высновы «Московский комсомолец».

**Лукашэнка манеўрамі задаволены**

«Независимая газета» не верыць у бясхмарнасць адносін паміж Мінскам і Масквой, нягледзячы на ўсе запэўніванні Лукашэнкі.

«Разнагалоссі паміж саюзнікамі нікуды не дзеліся, нягледзячы на красавіцкае нафтагазавае перамір'е. Той факт, што назіраць за вучэннямі разам з Лукашэнкам не прыехаў нават міністр абароны Расіі Сяргей Шайгу, толькі ўмацавала ў гэтым меркаванні.

Адносна рэальных прычын паасобнага ўдзелу «ў вайне» мясцовыя аналітыкі будуюць розныя версіі. Ад бяскрыўднай, што «не хацелі яшчэ больш дражніць Захад» да «асноўныя падзеі вучэнняў праходзяць зусім не ў Беларусі, а ў Расеі». Апошняя версія набывае ўсё большую папулярнасць. «Расейцы нечакана для Лукашэнкі разгарнулі значна большыя вучэнні, чым меркавалася па першапачатковым плане. Прычым расійскі бок падвярстаў да «Захаду-2017» цэлы шэраг манеўраў, вучэнняў, якія не планаваліся», — лічыць вайсковы эксперт Аляксандр Алесін. Праігнараваўшы візіт на беларускі палігон, «расейцы паказалі, хто галоўны партнёр», мяркуе эксперт».

**А калі не стане абодвух?**

Па звестках «Коммерсанта», яшчэ ў сераду раніцай беларуская ўлады разлічвалі, што вучэнні наведае міністр абароны Сяргей Шайгу. «Аднак праз падзеі ў сірыйскім горадзе Ідліб яму давялося свае планы перагледзець», — адзначае выданне.

«Падабалася ўсё, што адбываецца на палігоне і Аляксандру Лукашэнку. Спадабалася б, напэўна, і Уладзіміру Пуціну, калі б ён прыехаў у Беларусь. Спадар Лукашэнка пракаментаваў яго адсутнасцьнавучэнняхкоратка: «Калі снарад у адно месца — абодвух адразу не стане». Гэта быў, вядома, жарт: відавочна, так ён намякнуў на інцыдэнт з самаадвольным сходам ракеты з верталёта Ка-52 падчас расійскай часткі вучэнняў у Ленінградскай вобласці», — зазначае «Камерсант».

**Зміцер Панкавец**
***"Наша Ніва"***

ПАМЯЦЬ ПРА РЭПРЭСІІ

# ЦІ ВАРТА АДКРЫВАЦЬ АРХІВЫ КДБ?

**Пад петыцыяй з патрабаваннем зняць грыф «сакрэтна» з усіх дакументаў, якія захоўваюцца ў архівах за 1917–1953 гады, у тым ліку — забяспечыць свабодны доступ да спраў рэпрэсаваных за часамі Сталіна, агучыць і пазначыць усе месцы масавага пахавання рэпрэсаваных падпісалася ўсяго 1137 чалавек.**

Для краіны — гэта кропля ў моры. У Беларусі хапае іншых праблемаў — сацыяльных, эканамічных, дэмаграфічных — і зусім не завязаных на мінулым. Дык навошта адкрываць савецкія архівы зараз, калі ўжо і час прайшоў, і катаў, якія маглі б паўстаць перад судом, няма сярод жывых, і так напісаныя шматтомныя манаграфіі?

З боку сённяшніх нашчадкаў супрацоўнікаў НКУС ды афіцыёзных журналістаў часцяком можна пачуць: «Як гэта, адкрыць архівы? Ды тут такое пачнецца! Помста, разбіральніцтвы, скандалы…» Калі кажуць пра месцы расстрэлаў, па прыкладзе тых жа Курапатаў, зазвычай дадаюць, што ляжаць там далёка не толькі паэты ды навукоўцы. Там багата тых жа супрацоўнікаў савецкіх органаў, якія трапілі пад чарговую хвалю рэпрэсій, — а значыць, і іх трэба ўшаноўваць!

Рэдактар буйной дзяржаўнай газеты, здаецца, нават прыводзіў прыклад сваіх пошукаў у архівах КДБ напачатку 1990-х гадоў, калі наўпрост жахнуўся ад прачытанага: вялізная колькасць тых, каго ў нас прынята шанаваць як літаратараў нацыянальнага значэння, а ў наступным — бязвінных ахвяраў, самі працавалі на органы, здавалі і падстаўлялі сваіх сяброў ды знаёмых. Дык як далей фармаваць нацыянальны пантэон, ведаючы ўсё гэта?

Насамрэч, усе гэтыя аргументы нагадваюць элементарнае «забоўтванне» суразмоўцы. І чым больш туману і містыкі ў падобных размовах, тым страшней павінна быць. Маўляў, хай скрыня Пандоры застаецца зачыненай, бо інакш усё разваліцца: і наша — дзяржаўнае, і ваша — дэмакратычнае.

Пачнём з «вендэты», якая нібыта можа пачацца адразу пасля рассакрэчвання. Сёння мы маем прыклады не толькі краінаў Усходняй Еўропы і Балтыі, дзе архівы апублічаныя амаль 30 гадоў таму, але і Украіны, у якой да дакументаў СБУ доступ адкрылі пасля перамогі Майдану. Скажыце, дзе і калі канкрэтна зафіксаваныя прыклады такога кшталту «вендэты» на падставе архіўных дадзеных? Або нехта лічыць, што кроў у беларусаў больш гарачая за румынскую, вугорскую альбо ўкраінскую?

Ёсць і прыклад Германіі, дзе архівы гестапа і НСДАП з прозвішчамі катаў і ахвяраў трапілі ў агульнае карыстанне адразу пасля вайны. Па-іншаму і быць не магло, бо без агучвання праблемы і яе выніку не магло быць дэнацыфікацыі. Уявіце сабе, каб нехта спрабаваў супраціўляцца агучванню прозвішчаў ахоўнікаў Аўшвіцу на падставе таго, што ім гэта можа зашкодзіць! Сёння што вертухаі з Калымы, што следчыя з Полацку альбо Баранавічаў, якія працавалі ў 1930–1940-я, даўно знайшлі вечны спакой. Дык чаго баяцца? Адкрыйце архівы.




Калі кажуць пра супрацоўнікаў НКУС, якія могуць ляжаць побач са сваімі ўчорашнімі падследнымі ў Курапатах, дык ніхто ж гэтага і не аспрэчвае. Тым больш, агучванне поўнага спісу прозвішчаў катаў, і ахвяраў, а таксама катаў, якія сталіся ахвярамі, дапамажа паказаць трагедыю максімальна шматбакова. Пры падобным рэжыме кіравання ніхто не можа адчуваць сябе ў бяспецы: якія б пагоны альбо шаўроны ні насіў, чый бы партрэт ні стаяў на працоўным стале. Кажаце пра чэкістаў-ахвяраў? Давядзіце, адчыніце архівы.

Аргумент пра тое, што адкрыццё архіваў аўтаматычна здыме німбы з пэўнай колькасці нацыянальных дзеячаў, цікавы, але зноў — міма. Калі ты не маеш інфармацыі, асабліва пасля такіх заяў, то і падазраеш усіх. Тут як з фантазіямі раўнівага мужа: калі жанчына можа здрадзіць, значыць, здраджвае штораз, як выходзіць з хаты — нават калі ідзе ў краму па малако. Таму агучванне праўды не толькі здыме німбы з адных, але і дасць безумоўнае алібі іншым, якія адмовіліся, не раскаваліся, не здрадзілі. Магчыма, нацыянальны пантэон кагосьці згу¬біць пасля гэтага, але абавязкова кагосьці знойдзе. Каб пераканацца — адкрыйце архівы.

Часцяком можна пачуць рэплікі: маўляў, дзяржбяспека займалася не адно палітыкай, але і крымінальнікамі, і карупцыянерамі, і сапраўднымі замежнымі шпіёнамі, то бок — прафільнай працай. Таму і мазаць чорнай фарбай усіх не варта. Пакінем убаку аналогію, кшталту таго, што КрыПо (крымінальная паліцыя ў Трэцім рэйху) таксама лавіла гвалтаўнікоў і злодзеяў, бо гэта — іх абавязкі, пытанне ў іншым. Калі так — давядзіце гэта, пакажыце сапраўды шчырых чэкістаў з чыстымі рукамі, якія баранілі суайчыннікаў, а не толькі правадыра партыі. Як? Адчыніце архівы.

Наогул, уяўленне пра тое, што агучванне нейкай інфармацыі, звязанай са злачынствамі дзяржавы супраць яе грамадзян, можа справакаваць невылечны крызіс у грамадстве, сведчыць толькі аб адным: ні пра які давер паміж уладай і народам размовы быць не можа. Давайце шчыра, крызіс даверу ўжо і так ёсць, і акурат каб яго мінімізаваць, патрэбная празрыстасць сістэмы і права кожнага на праўду. Таму, для пачатку, адкрыйце архівы!

**Алесь Кіркевіч**
***"Новы Час"***

ДЭКРЭТ №3

# ТУНЕЯДЦЫ НЕ ЯВЛЯЮТСЯ НАГРУЗКОЙ НА БЮДЖЕТ…

**Оппозиция представила свою альтернативу декрету «о тунеядцах» на пресс-конференции правоцентристской коалиции в виде пакета законопроектов, альтернативных декрету № 3 «О предупреждении социального иждивенчества».**

Как сообщил руководитель рабочей группы по разработке проектов документов, глава Научно-исследовательского центра Мизеса Ярослав Романчук, анализ декрета номер № 3 показал, что «научной ценности данный документ не имеет, так как содержит противоречия и вызывает негативные явления, о которых говорят не только политики, но и люди». «Заявление о том, что тунеядцы являются нагрузкой на бюджет, — выдумка. Даже в цене продуктов около 30% — налоги. В итоге в год около 6,5 млрд долларов налогов граждане уплачивают косвенно, через покупку товаров и услуг», — сказал он.

Разработанный пакет альтернативных документов, по словам Романчука, предусматривает комплекс мер по обеспечению «быстрого, долгосрочного инклюзивного экономического роста». В частности предусмотрено принятие законопроекта об адресной социальной защите, переход в режим финансирования начального и среднего образования посредством образовательных ваучеров, а также переход в режим страховой медицины посредством открытия каждым гражданином страхового медицинского накопительного счета.

Правоцентристы намерены вынести разработанные проекты на широкое общественное обсуждение, а также передать их в заинтересованные ведомства и организовать ряд круглых столов, в том числе в регионах. «Мы хотели бы, чтобы граждане могли сформировать свое мнение по поводу новой редакции декрета, разрабатываемого властью, и нашего альтернативного проект документов», — пояснил председатель ОГП Анатолий Лебедько.

По словам председателя движения «За Свободу» Юрия Губаревича, государство должно вывести экономику из тени. «Наш проект документов показывает, как легальными путями улучшить финансирование бюджета и различных госпрограмм, не используя в экономике репрессивный путь», — сказал он.

«Мы понимаем, что изменения в нашей стране могут быть связаны не с репрессивными декретами, а проведением глубоких реформ», — добавил сопредседатель оргкомитета БХД Виталий Рымашевский.

Депутат Палаты представителей Анна Канопацкая, которая является членом ОГП, подчеркнула, что правоцентристы выносят документы на всеобщее обсуждение, а не «готовят их втихаря, как власти». «Мы исходили из того, что именно реформы нужны стране для выхода из социально-экономического и политического кризиса», — заявила она.

Первоначально планировалось, что пресс-конференция состоится в Палате представителей, однако оппозиционным политикам отказали в доступе в парламентский пресс-центр. В итоге мероприятие прошло в отеле «Монастырский», после чего Канопацкая одна презентовала альтернативные декрету № 3 документы в Палате представителей.

Декрет № 3 обязывает граждан Беларуси, постоянно проживающих на территории страны иностранных граждан и лиц без гражданства, которые не участвовали в финансировании государственных расходов или участвовали в таком финансировании менее 183 календарных дней в году, уплачивать сбор в 20 базовых величин. Иначе им грозит штраф или административный арест. Декрет вызвал протесты граждан, пик которых пришелся на весну этого года.

По данным Министерства по налогам и сборам, сбор уплатили более 54 тыс. человек из 470 тыс., которым были разосланы уведомления. В местные бюджеты поступило 16,3 млн рублей.

В начале июля Александр Лукашенко распорядился начать возврат сбора, уплаченного по декрету. Деньги возвращаются только тем, кто смог трудоустроиться. На совещании 3 августа он заявил, что «никакой отмены декрета № 3 быть не может», речь идет о новой редакции этого документа.

**Сергей Королевич**
**naviny.by**

"НА КАРТОШКУ"

# «… БЕСПРАВНОЕ МОЛЧАЛИВОЕ БЫДЛО»

**Трагедия в Молодечненском районе, когда во время уборки урожая погибла 13-летняя девочка, оставила свой отпечаток на системе помощи сельхозпредприятиям. Теперь главными трудовыми ресурсами станут учащиеся колледжей, учителя. «На картошку» отправляются, в большинстве своем, женщины и ученики колледжей.**

К сожалению, нередко работники бюджетных организаций предпочитают молчать и терпеть даже тогда, когда им предлагают не самые выгодные условия труда. К нам обратилась Васильева Анна Аркадьевна, педагог высшей категории с более чем 30-летним стажем из средней школы № 1 Новолукомля (Витебская область). Ее коллектив также был призван на сельскохозяйственные баррикады страны, причем на сбор урожая педагогам предлагается потратить свой методический день. Ведь помощь следует оказать без ущерба для учебного процесса.

«В нашей школе висит объявление о том, что учителя в свой методический день или в субботу (по графику) должны выехать на сельхозработы в КУСХП „Кащенское". Предприятие обещает своевременную оплату в натуральной форме. Поясняю: за урок учитель со стажем и высшей категорией получает чуть меньше 5 рублей. Мне за 4-5 часов тяжкого физического труда заплатят, в лучшем случае, ведром картошки.

Нашего согласия никто не спрашивает. Никакого договора со мной лично предприятие на заключало. Я не поеду. Мне 56, контракт со мной на год, надбавка маленькая. То есть наказать меня сложно — я ничем не рискую. Но жалко людей. Ведь загонят. А они только мычать будут, потому что существующая система контрактов и надбавок за лояльность сделала из учительства, да и других наёмных работников, бесправное молчаливое быдло»

Можно понять возмущение женщины: какое отношение педагоги могут иметь к уборке картофеля? Тем более трудно представить, что учителей ожидает достойная оплата за тяжелый физический труд. На следующий день, после того как Анна Аркадьевна связалась с нами, мнение руководства по поводу сельхозработ изменилось:

«Директор сказала мне, что я не еду, что завуч, составлявшая этот график поездок в колхоз, не учла всех обстоятельств. О каких обстоятельствах она говорила, я не стала уточнять. Мне всё равно — еду или не еду. Меня возмущает сам факт того, что людей принуждают к практически бесплатному труду и делает это государственный орган власти, открыто и беспардонно. И все молчат. Детей боятся посылать после прошлогодней трагедии с девочкой в Молодечненском районе. Зато могут послать без оформления трудовых отношений женщин. А не дай Бог, кому-то плохо станет, кто-то после заболеет… Будет как с той девочкой: вы не работник данного предприятия, с вами не заключался договор»

Чтобы разобраться в ситуации, с которой столкнулась Анна Аркадьевна, мы обратились за комментарием к правозащитнику Белорусского Хельсинкского Комитета Павлу Левинову: «Согласно статье 13 Трудового кодекса Республики Беларусь принудительный труд запрещен. Читайте внимательно трудовой контракт (договор) и должностные обязанности. Если в них ничего не прописано об уборке урожая, то никто не имеет права вас принудить к выполнению такой работы. Что делать, если все же принуждают? Обратитесь в прокуратуру, которая обязана осуществлять контроль за соблюдением законодательства.»

**https://vkurier.by**

ВАКОЛ "МАТЫЛЬДЫ"

# ЧАМУ КАХАНЬНЕ АБ'ЯЎЛЕНА СЬВЯТАТАЦТВАМ

**Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі мітрапаліт Павел асудзіў расейскі фільм «Матыльда» і заклікаў вернікаў яго не глядзець. Добра, што хоць не патрабуе забароны, не заклікае да анафэмы, не ладзіць хрэсны ход з пратэстам супраць паказу. Хоць, на мой погляд, такая скандальная ўвага да гэтага твору толькі робіць яму дадатковую рэкляму.**

Для беларусаў гэтыя расейскія спрэчкі малазразумелыя. Асоба Мікалая II не выклікае тут ніякіх асаблівых эмоцыяў. У Беларусі не існуе ўплывовага грамадзкага руху, заснаванага на ідэалягічнай сумесі праваслаўя, манархізму і імпэрскасьці.

Праблема палягае ў тым, што Мікалай II кананізаваны Рускай праваслаўнай царквой у якасьці сьвятога. І царква лічыць, што сьвятога нельга паказваць як звычайнага чалавека, тут ня можа быць ніякага мастацкага ўвасабленьня вобразу.

Рэч у тым, што кананізацыя Мікалая II адбылася ў той кароткі пэрыяд постсавецкай гісторыі Расеі, калі ўсё, што рабілі бальшавікі і Савецкая ўлада, ацэньвалася са знакам мінус, а іхных палітычных праціўнікаў надзялялі ўсімі станоўчымі якасьцямі. Фактычна сьвятым яго абвʼявілі толькі за сам факт пакутніцкай сьмерці. Царква паддалася агульнаму грамадзкаму настрою і тым самым стварыла тую праблему, якая цяпер вылезла на паверхню.

Праблема якраз у тым, што пакутнікам абвяшчаюць гістарычную постаць, палітыка, прычым не такога далёкага мінулага. І гэта вельмі спрэчнае рашэньне. Бо Мікалай II, як і любы палітык, — вельмі супярэчлівая фігура, нават з гледзішча расейскай гісторыі. На ім ляжыць шмат грахоў. Гэта і «крывавая нядзеля» (расстрэл мірнага шэсьця рабочых у Санк-Пяцярбургу 9 студзеня 1905 году), і падтрымка чарнасоценцаў, вінаватых у габрэйскіх пагромах. А сумна вядомая распуціншчына прывяла да таго, што цар апынуўся ў ізаляцыі нават у асяродзьдзі імпэратарскай сям'і. І з гледзішча імпэрскай велічы Расеі кіраваньне Мікалая II нельга назваць удалым. Ганебныя вынікі ў вайне Расеі зь Японіяй — гэта ўвогуле першая параза краіны эўрапейскай ці хрысьціянскай цывілізацыі у ваенным канфлікту з азіяцкай дзяржавай. І ў Першай усясьветнай вайне, падчас якой цар аб'явіў сябе вярхоўным галоўнакамандуючым, Расея атрымала ў асноўным паразы. Нямецкія войскі акупавалі вялікую частку імперыі, уключаючы палову тэрыторы Беларусі.

А цяпер, паводле РПЦ, Мікалай II — сьвяты. І гэта значыць, што нічога дрэннага пра яго пісаць, здымаць ці маляваць нельга. То бок і гістарычныя працы на тэмы ягонага цараваньня забароненыя? Відавочны абсурд. РПЦ сама стварыла сабе праблему, трапіла ў пэўную пастку.

Не менш цікавыя і такія разважаньні мітрапаліта Паўла. Маўляў, сёньня зьневажаем імпэратара Мікалая II, заўтра будуць зьневажаць Уладзіміра Ільіча Леніна, а пасьлязаўтра — некага іншага. Пра некага іншага — гэта пра каго? Нават баюся рабіць здагадкі.

А вось пра Леніна — гэта цікава. З кантэксту гэтай фразы мітрапаліта вынікае, што зьняважлівыя творы пра Леніна — гэта яшчэ большае сьвятатацтва, чым пра Мікалая II. Але ж менавіта са згоды «правадыра ўсясьветнага пралетарыяту» прыняў пакутніцкую сьмерць апошні расейскі цар і ягоная сям'я. То бок кат і ягоная ахвяра ўзводзяцца на адзін узровень? Дзіўная паралель.

А фільм «Матыльда» ў беларускіх кінатэатрах, нягледзячы на пратэсты царквы, пачне дэманстравацца ўжо з 26 верасня.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.
**Падпісана да друку 29.09.2017 у 15.10**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.